# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ
АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

30-га КАСТРЫЧНІКА 1928 г.



# № 3

ПЕРШЫ ГОД
ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛКООПСАЮЗУ



# ЗЬМЕСТ.

## Рэзалюцыі і пастановы II-й сэсіі Савету Белкоопсаюзу ад 14-15-га кастрычніка 1928 г.



## Дырэктывы Белкоопсаюзу.



## Афіцыйны аддзел.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43.

№ 3 | 30-га кастрычніка 1928 г. | № 3




## РЭЗАЛЮЦЫІ І ПАСТАНОВЫ

## II-й сэсіі Савету БКС 14—15-X—1928 г.

### Рэзалюцыя па пытаньню аб пляне загатовак спажывецкай коопэрацыі на 1928-29 год

Заслухаўшы даклад тав. Наўлянскага аб пляне загатовак спажывецкай коопэрацыі Беларусі на 1928—29 гасп. год, **сэсія Савету БКС пастанаўляе:**

а) Па хлебазагатоўках

1. Пляны загатовак хлеба, памольнага збору і ільнанасеньня зацьвердзіць у наступных разьмерах: а) хлебазагатовак—1.020 тысяч п.; б) памольнага збору—2.000 тыс. пуд.; в) ільнасемя—230 тыс. пуд.

Адначасова зацьвердзіць прадстаўлены праўленьнем Белкоопсаюзу плян разьмеркаваньня гэтых загатовак па саюзам і аддзяленьням БКС.

2. Улічваючы выключнае значэньне хлебазагатовак у бягучым гаспадарчым годзе, лічыць неабходным устанаўленьне вышэйшымі звеньнямі для ніжэйшых штомесячных плянавых заданьняў, абавязаўшы ўсе коопэрацыйныя арганізацыі да няўхільнага выкананьня гэткіх.

3. Лічыць правідловым пастанаўленьне праўленьня БКС аб вылучэньні асоб, адказных за вядзеньне загатовак у саюзах; абавязаць саюзы ўскласьці на старшынь спажыўтаварыстваў там, дзе да гэтага часу гэта не праведзена,—пэрсанальную адказнасьць за выкананьне плянавых заданьняў па загатоўках.

4. Адзначыць слабае разгортваньне загатовак у некаторых раёнах. Абавязаць арганізацыі гэтых раёнаў прыняць тэрміновыя захады да праверкі выкананьня маючыхся па загатоўках дырэктаў і безадкладнаму адхіленьню ўсіх зьявішч, перашкаджаючых разгортваньню гэтай працы.

5. Адзначыць, што разгортваньне загатовак да гэтага часу ў асноўным праходзіць без ахопу глыбінных пунктаў.



Улічваючы блізкае наступленьне бездарожжа і магчымае скарачэньне падвозу хлеба на рынкі, прыняць усе крокі да разгортваньня загатовак у аддалёных сельскіх мясцовасьцях.

6. Улічваючы, што асноўная маса ільнасемя павінна быць загатоўлена ў працягу кастрычніка-лістапада месяцаў, зьвярнуць выключную ўвагу на гэты від загатовак.

Аднначасова даручыць праўленьню БКС паставіць перад НК Гандлем пытаньне аб безадкладным вылучэньні дастаковай колькасьці алею для прэміраваньня здатчыкаў ільнасемя.

Прасіць НК Гандлю БССР аб прыняцьці мер да хутчэйшай выдачы заводамі аналізаў і прыймовых квіткоў на здаваемае семя.

7. Канстатаваць, што ў справе арганізацыі памольнага збору ўсё яшчэ наглядаецца цэлы шэраг ненармальнасьцяў (ухіленьне прыватных млынароў, а таксама калгасаў, саўгасаў ад падпісаньня дагавароў і выпадкі ўкрыцьця млынарамі хлеба і г. д.).

Абавязаць усе арганізацыі ў працягу двухтыднёвага тэрміну скончыць працу па заключэньні дагавароў з млынарамі; устанавіць кантрольныя лічбы, выходзячы з вылічанага гадовага звароту НКФ, не аслабляючы кантроль; у тых выпадках, калі з боку млынароў будзе наглядацца адмова ад заключэньня дагавораў, або будуць выяўлены факты ўкрыцьця хлеба,—безадкладна перадаваць справы ў суд. Зьвярнуцца да ўраду БССР з просьбай аб выданьні спэцыяльнай пастановы пра ўнечарговы разбор гэтых спраў.

8. Улічваючы, што выдаткаваньне асноўнай масы памольнага збору прызначана для забесьпячэньня вясковай бедната і рабочых, якія жывуць у раёнах, лічыць неабходным скараціць да мінімуму пэракідку памольнага збору з аднаго раёну ў другі.

9. Улічваючы, што як у справе разгортваньня загатовак, гэтак і ў зборы памольнага зерня, усё яшчэ не дасягнуты належны тэмп працы, лічыць мэтазгодным выезд раду работнікаў БКС і акрсаюзаў на месцы для праверкі і ўзмацненьня ходу загатовак.

10. У мэтах стымуліраваньня паляпшэньня якасьці здаваемага зерня, лічыць неабходным ужываньне боніфікацыі і рэфакцыі, даручыўшы ўсім саюзам і аддзяленьням БКС безадкладна паклапаціцца аб інструктаваньні і забесьпячэньні нізоўкі патрэбнымі прыладамі для пазнаваньня якасьці зерня, у першую чаргу ў буйных спажывецкіх таварыствах.

11. Даручыць Праўленьню БКС узьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб павялічэньні бланкавага крэдыту па фінансаваньні хлебазагатовак.

12. Устаноўлены НКГандлем разьмер накідак у 50 кап. на цэнтнэр на пакрыцьцё ўсіх выдаткаў па загатоўках, лічыць недастатковым. Даручыць праўленьню Белкоопсаюзу ўзьняць пытаньне аб устанаўленьні спэцыяльнай накідкі на конвэнцыйныя цэны пры перакідцы загатаўляемага хлеба ў іншыя раёны.

13. Улічваючы, што завоз круп з-за межаў БССР будзе абмяжованы, лічыць неабходным большую частку загатаўляемай колькасьці

аўсу і ячменю перапрацаваць на крупы для забесьпячэньня насельніцтва. Таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу на пераапрацоўку мясцовай грэчкі.

### б) Па завозу хлеба

1. Прыняць да ведама, што на 28—29 г. завоз хлеба ў БССР з іншых раёнаў будзе вытваран па лініі спажыўкоопэрацыі ў колькасьці жытніх і пшонных адзінак у разьмеры 9.000.000 пуд. і па лініі Саюзхлеба—у разьмеры 2.000.000 пуд.

2. Лічыць правільнай пасылку БКС раду работнікаў на месцы для адгрузкі хлеба, прапанаваўшы праўленьню БКСаюзу і ў далейшым, у выпадку неабходнасьці, практыкаваць такія выезды.

### в) Разьмеркаваньне хлеба

1. Зацьвердзіць плян разьмеркаваньня ўсіх хлебапрадуктаў па лініі рабочага сэктару ў разьмеры 4 з пал. міл. пуд., па лініі сельскага сэктару і ільнаводных раёнаў—5.755 міл. пуд. і на стварэньне рэзэрваў у разьмеры 1.200.000 пуд.

2. Лічыць неабходным пачаць стварэньне рэзэрвнага фонду з канца кастрычніка м-ца. Даручыць Праўленьню БКСаюзу прыняць сваечасовыя меры да вызначэньня парадку хаваньня рэзэрву і спосабу яго фінансаваньня.

3. Улічваючы неабходнасьць выключнага эканомнага выдаткаваньня хлебных запасаў, абавязаць усе арганізацыі строга захоўваць кантрольныя лічбы выдаткаваньня хлеба, устанаўляемых НК Гандлем і акркамгандлямі на мясцох.

### г) Па загатоўках сыравіны і экспарту

1. Канстатаваць, што ўдзельная вага спажыўсыстэмы ў загатоўцы сыравіны на бягучы гаспадарчы год ня толькі не скарочана, але па цэламу шэрагу прадуктаў значна павялічана і пашырана за лік ахопу новых відаў сыравіны.

Адначасова адзначыць скарачэньне экспартнага пляну БКС супроць вызначанага—на суму 773 тыс. руб., у выніку адхіленьня спажкоопэрацыі ад непасрэднага экспарту па цэламу раду відаў сыравіны (шчаціньне, пушніна і інш.).

2. Прадстаўлены плян загатовак на суму 5.200.000 руб. і экспартны плян на суму 827.000 руб., з адпаведным разьмеркаваньнем іх па арганізацыям і відам сыравіны, у асноўным зацьвердзіць.

3. Абавязаць праўленьне БКС не пазьней 2-хтыднёвага тэрміну заключыць дагаворы з арганізацыямі на здачу ім сыравіны непасрэдна неэкспартуемай спажыўкоопэрацыяй, прымаючы ўсе захады да забесьпячэньня належнага фінансаваньня гэтых загатовак.

4. Адзначаючы, што плян загатовак за мінулы 1927—28 гаспадарчы год выканан у разьмеры 119,7 проц. і плян экспарту ў разьмеры 97,4 проц., што зьяўляецца дастаткова здавальняючым, асабліва ў галіне выкананьня экспартнага пляну, абавязаць усе арганізацыі

прыняць рашучыя меры да забесьпячэньня выкананьня пляну загатовак і экспартнага пляну на 1928—29 г., устанавіўшы па ім парадак ужываньня плянавых месячных заданьняў і пэрсанальнай адказнасьці таксама, як і па хлебазагатоўках.

5. Адзначаючы, што ў справе арганізаванага збыту другарадных відаў экспартнай сыравіны ўсё яшчэ наглядаюцца асобныя выпадкі сэпаратных прадаж гэтай сыравіны з боку некаторых арганізацый, даручыць праўленьню БКС ужываць да гэткіх арганізацый меры фінансавага ўплыву, аж да зачыненьня экспартных крэдытаў.

Адначасова абавязаць Праўленьне БКСаюзу ўжыць усе захады да своечасовай прыёмкі загатаўляемай сыстэмай сыравіны, арганізаваўшы асобнае хаваньне гэтай сыравіны ад сыравіны аддзяленьняў БКСаюзу.

6. Улічваючы маючыя мейсца выпадкі ненармальных адносін загатоўцаў паміж сабою, што часта адбіваецца на ходзе загатовак, прызваць усе арганізацыі да безадкладнага адхіленьня такіх зьявішч, зусім спыніўшы ўсялякія выпадкі нездаровай канкурэнцыі (падсіжваньне, пераплаты і г. д.).

## д) Па мясазагатоўках

1. Плян мясазагатовак і разьмеркаваньне яго паміж асобнымі арганізацыямі ў разьмеры 3150 тон зацьвердзіць.

Лічыць, што згодна пастановы ЭКАНА самастойная загатоўка мяса Цэрабкоопамі вытвараецца толькі ў тых выпадках, калі іх попыт нездавальняецца асноўнымі загатоўцамі.

2. Даручыць Праўленьню Белкоопсаюзу і Прэзыдыуму Белрабсэкцыі ўжыць усе захады да забесьпячэньня завозу мясапрадуктаў з Украіны ў разьмерах, зацьверджаных ЭКАНА (3000 тон).

Адначасова даручыць Праўленьню БКСаюзу і Прэзыдыуму Белрабсэкцыі забясьпечыць своечасовае стварэньне рэзэрву сала ў разьмеры 250 тон.

3. Адзначыць, што фінансаваньне мясазагатовак вытвараецца ў парадку прадстаўленьня банкаўскага крэдыту і шляхам укладаньня сыстэмай сваіх сродкаў у разьмеры 63.000 руб.

Даручыць Праўленьню БКСаюзу разьмеркаваць сродкі на мясазагатоўкі паміж асобнымі арганізацыямі прапарцыянальна ўдзельнай вагі іх загатовак.

Даручыць Праўленьню БКСаюзу заключыць ген. дагавор з Белмясгандлем на пастаўку яму загатаўляемага сыстэмай мяса,—папярэдня разаслаўшы дагавор на заключэньне саюзаў.

## е) Па загатоўках бульбы

1. Плян загатовак бульбы і яго разьмеркаваньне паміж арганізацыямі ў разьмеры 13.000 тон у асноўным зацьвердзіць.

2. Лічыць, што забесьпячэньне бульбай ЦРК павінна вытварацца ў парадку прымацаваньня іх да Райсаюзаў.

3. Улічваючы неабходнасьць з агульнай колькасьці загатаўляемай бульбы стварыць вясеньні і летні рэзерв для забесьпячэньня гарадоў у разьмерах да 400.000 пуд., абавязаць прэзыдыум Белрабсэкцыі і асобныя рабочыя коопэратывы паклапаціцца аб арганізацыі захаваньня гэтага рэзэрву.

4. Улічваючы, што асноўная маса загатаўляемай бульбы будзе вытварацца ў бліжэйшыя месяцы, даручыць Праўленьню Белкоопсаюзу тэрмінова паклапаціцца аб фінансаваньні саюзаў на загатоўку бульбы ў разьмеры ўдзельнай вагі іх удзелу ў гэтай загатоўцы.

### ж) Агульныя заўвагі

1. Абавязаць усе арганізацыі безадкладна скончыць працу па праверцы апарату, замяняючы зьнімаемых больш працаздольнымі і ведаючымі справу працаўнікамі.

2. Улічваючы, што як у пытаньнях хлебазагатовах, так і ў пытаньнях загатовак сыравіны своечасовая дача вестак адыгрывае выключнае значэньне для вучоту і нагляданьня за ўсім ходам загатовак, абавязаць усе арганізацыі безагаворачна і своечасова прадстаўляць гэтыя весткі і папярэдзіць, што ў выпадку непрадстаўленьня ў далейшым патрабуемых вестак у паказаныя тэрміны, да іх будуць ужывацца адміністрацыйныя спагнаньні, аж да аддачы пад суд.

3. Адзначаючы, што ў пытаньнях загатовак сыравіны, асабліва сэзонных, выключна важнае значэньне мае своечасовая інфармацыя аб агульным ходзе загатовак, абавязаць арганізацыі і БКС узаемнай штомесячнай інфармацыяй аб гэтых загатоўках.

4. Улічваючы, што значная частка загатовак, вытвараемых сельскім сэктарам спажкоопэрацыі павінна быць рэалізавана ў парадку здавальненьня патрэбнасьцяй гарадзкога насельніцтва праз рабочую коопэрацыю, даручыць праўленьню БКС і Прэзыдыуму Белрабсэкцыі, адначасова з разгортваньнем загатовак па тым ці іншым відзе сельска-гаспадарчых прадуктаў, улічваць патрэбнасьць у гэтых прадуктах з боку рабочай коопэрацыі для своечасовага іх забесьпячэньня.

## Рэзалюцыя па пытаньню аб пляне забесьпячэньня промтаварамі спажывецкай коопэрацыі на 1928—29 г.

Заслухаўшы даклад т. Кумжеса аб зваротах Белкоопсаюзу за 27—28 опэрацыйны год і пляне здавальненьня на 28—29 опэрацыйны год, сэсія савету Белкоопсаюзу п а с т а н а ў л я е:

1) Прапанаваць Праўленьням БКС, Райсаюзам і ЦРК у мэтах усебаковага здавальненьня спажывецкага попыту, узмацніць працу не толькі існуючым асартымэнтам, але і ўцягнуць у зварот новыя яшчэ неахопленыя коопэрацыйнай сыстэмай групы тавараў і ў першую чаргу: мэблю, шорныя вырабы, шавецкія прылады, меха, шоўкавая тканіна, швэйныя машыны, музыкальныя інструмэнты, ваенна-спартыўныя прылады, радыё-апаратура, цацкі і інш.

Лічыць асабліва неабходным разьвіцьцё працы ЦРК з сельгаспрадуктамі, давёўшы ўдзельную вагу іх у звароце да норм запроэктаваных кантрольнымі лічбамі Белкоопсаюзу (44,4 проц.).

2) Дасягнуўшыя БКС звароты ў 27—28 г. (па папярэдніх даных) у суме 86.230 тысяч руб. або 88,7 проц. пляну і ўзросшыя на 70 проц. супроць 26—27 г., лічыць здавальняючымі, асабліва прымаючы пад увагу недавыкананьне гендагавораў па промтаварах на 17,6 проц.

3) Звароты на 28—29 опэрацыйны год, вызначаныя па пляну ў суме 122.416 тыс. руб., зацьвердзіць і прапанаваць Праўленьню БКС прыняць своечасовыя захады да забесьпячэньня выкананьня пляну.

4) Прызнаць, што ўзрост заваротаў БКС і плянавае забесьпячэньне спажыўсыстэмы ў значнай меры абавязаны наяўнасьці гендагавароў.

5) Ухваліць тэндэнцыю БКС да заключэньня гендагавароў па ўсіх прамысловых і сельгаспадарчых таварах.

6) Прапанаваць Праўленьню БКС зрабіць захады да найбольшага ахопу гендагаварамі пляну здавальненьня на 28—29 опэр. год давёўшы гэтакі да 89,3 проц.

7) Прапанаваць Праўленьню БКС дабівацца ў дагаварох забесьпячэньня выкананьня: адпаведнага асартымэнту, тэрмінаў адгрузкі і ўхіляцца прадастаўленьня ільготных тэрмінаў па адгрузцы.

Раіць Праўленьню БКС, па магчымасьці, пры заключэньні гендагавароў дабівацца практыкі падэкадных (дзесяцідзённых) адгрузак.

8) Лічыць дасягнутыя нормы транзытнага завозу тавараў у Райсаюзы і ЦРК упаўне здавальняючымі і прапанаваць БКС працягваць і ўзмацняць транзітныя адпраўкі.

9) Канстатуючы павялічэньне транзытнага завозу Райсаюзамі ў спажывецкія таварыствы, даручыць ім у працягу I кварталу зрабіць захады да ўзмацненьня транзытнага завозу і зьменшыць процант камісійнай узнагароды на транзітныя адпраўкі для спажыўтаварыстваў.

Аднычасова даручыць Праўленьню БКС дабівацца пры заключэньні гендагавароў зьмяншэньня норм адгрузак, павялічэньня кругу тавараў, якія завозяцца франка станцыя прызначэньня і своечасовасьці адгрузак у спажтаварыствы.

10. Лічыць неабходным захаваньне складзкіх апэрацый БКС на 28—29 опэр. год для часткі заваротаў, па наступных таварах: галянтарэі, трыкатажу, шоўку, абутку, мехаў, пісча-папяровых, кніг, сухафруктаў, фруктаў, рысу, пранасьцяў, сілікату і эмаліраванай пасуды ў разьмерах, прадугледжаных гадавым плянам (6,4 проц.). Аднычасова даручыць Праўленьню БКС вылучыць асобна тавары прызначаныя для забесьпячэньня спажыв. таварыстваў Менскага аддзяленьня і ўнесьці адпаведныя зьмены ў выдаткі каштарысу, калі гэта патрэбна будзе, на ўтрыманьне працаўнікоў складу.

Рэўкамісіі ўдасканаліць неабходнасьць дадатковага павялічэньня проц. накладаньня па опэрацыях з Акрсаюзамі і Цэрабкоопамі.

11) Прапанаваць Праўленьню БКС дабівацца максымальнага здавальненьня сыстэмы папярэдніх заказаў па гендагаварох, прадугле-

дзеўшы па магчымасьці адначасовае атрыманьне ўсяго заказу, але з разрывам ня болей 3-х дзён.

12) Канстантуючы павялічэньне зваротаў БКС з мясцовай і саматужнай прамысловасьцю і яе ўдзельнай вагі ў 27—28 г. (16,9 пр.), прапанаваць Праўленьню БКС кіравацца на 28—29 опэр. год вызначаным плянам—17,7 проц. удзельнай вагі мясцовай прамысловасьці ў агульным таваразвароце.

13) Прапанаваць Праўленьню БКС дабівацца прыстасаваньня асартымэнту, цэн і якасьці прадукцыі мясцовай прамысловасьці да патрабаваньняў спажыўца.

14) Прапанаваць Праўленьню БКС дагаварыцца з саматужнай коопэрацыяй аб заключэньні дагавароў па папярэдня-падрыхтованых абразцох.

15) Улічваючы, што дэфіцытнасьць цэлага шэрагу сельгас і промтавараў выклікае перабоі ў здавальненьні насельніцтва ў найбольш вострыя пэрыяды попыту, і што забесьпячэньне рэгулярнага здавальненьня магчыма толькі пры своечасовым стварэньні рэзэрваў, сэсія Савету БКС, ухваляючы практыку рэзэрваў, лічыць неабходным у далейшым стварэньне іх як па сельгаспадарчых, гэтак і па промтаварах, пры ўмовах забесьпячэньня фінансаваньня ствараемых рэзэрваў і пакрыцьця страт, якія зьвязаны з іх хаваньнем.

16) Прапанованыя Праўленьнем БКС коэфіцыенты разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў між горадам і вёскай на 1 квартал 28—29 г. зацьвердзіць.

Даручыць Праўленьню БКС распрацаваць асновы вылічэньня ўдзельнай вагі гораду і вёскі для далейшага кіраваньня.

Прапанаваць райсаюзам, каб дэфіцытныя тавары скарыстоўваліся па прамому прызначэньню.

17) Коэфіціэнт разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў унутры рабочага і сельскага сэктараў зацьвердзіць.

Даручыць Праўленьню БКС карэктаваць адзначаныя коэфіцыенты пакваргальна на падставе зьмяняючайся ўдзельнай вагі арганізацый у паказчыках.

18) Грунтуючыся на пастанове СНК СССР ад 7-VIII—28 г. аб мэтадах разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў, даручыць Праўленьню БКС удасканаліць свае ўзаемаадносіны з НКГ БССР.

19) Прапанаваць Праўленьню БКС не пазьней 1-га студзеня разьмеркаваць бонус паміж Райсаюзамі і ЦРК.

20) Улічваючы, што ўмовы разьліку па дагаварох з прамысловасьцю за апошні час значна пагоршыліся, Праўленьню БКС зрабіць захады да паляпшэньня ўмоў разьліку па гендагаварох.

21) Прымаючы пад увагу, што прадастаўляемы банкаўскі крэдыт не забясьпечвае выкананьня поўнасьцю пляну, прапанаваць Праўленьню БКС паставіць у адпаведных організацыях пытаньне аб павялічэньні банкаўскіх крэдытаў.

## Пастанова аб капітальным будаўніцтве

1. Распрацаваны плян капітальнага будаўніцтва па спажыўсыстэме на 1928—29 г. у асноўным прыняць. Па канчатковым высьвятленьні асыгнаваньняў на капітальнае будаўніцтва даручыць праўленьню ўнесьці ў плян адпаведныя карэктывы.

2. Абавязаць ўсе звеньні сыстэмы прадставіць БКС ва ўстанаўліваемыя ім тэрміны ўсе неабходныя матар'ялы з вычэрпываючымі абасаваньнямі па ўсіх відах капітальнага будаўніцтва, прычым для арыентыроўкі БКС паведамляць прыкладныя грашовыя ліміты, якія ўстанаўляюцца для асобных арганізацый.

3. Праўленьню БКС безадкладна па афармленьні пляну будаўніцтва і канчатковага ўстанаўленьня разьмераў фінансаваньня своечасова разьмеркаваць сродкі з такім разьлікам, каб арганізацыі маглі своечасова забясьпечыць будаўніцтва неабходнымі матар'яламі.

4. Канстатуя, што існуючыя ўмовы арэнды, таксама і арэнднай платы вельмі цяжкі для сыстэмы, даручыць праўленьню БКС увайсьці з адпаведнымі прадстаўленьнямі ва ўрадавыя органы аб зьмяншэньні арэнднай платы да межаў, якія дапушчаюцца ўстаноўленымі нормамі выдаткаў звароту і палягчэньняў умоў арэнды ў сэнсе перакладаньня выдаткаў па рамонту і пераабсталяваньні на ўласьнікаў памяшканьняў.

5. Даручыць праўленьню паставіць пытаньне перад урадавымі органамі аб перадачы кооперацыйным арганізацыям у дармовае доўгатэрміновае карыстаньне складзкіх і крамных памяшканьняў, якія патрабуюць буйных затрат на адбудову.

6. Даручыць праўленьню БКС абгаварыць пытаньне аб магчымасьці прыцягненьня сродкаў на патрэбы капітальнага будаўніцтва спажыўкооперацыі.

7. Улічваючы, што назначаемыя разьмеры будаўніцтва крам ня вычэрпваюць у бліжэйшыя гады ў поўнай меры пастаўленай задачы па ўздыме якасьці абслугоўваньня спажыўца, праўленьню БКС распрацаваць магчымасьць ужываньня сыстэмы перасоўнай крамы.

8. Даручыць Прэзыдыуму Белрабсэкцыі і праўленьню БКС распрацаваць пытаньні аб будаваньні кухань-разьмеркавальнікаў.

## Пастанова сэсіі аб перавыбарчай кампаніі

1. Справаздачна-перавыбарчую кампанію па спажывецкай кооперацыі правесьці па лініі сельскай сеткі ў працягу сакавіка-красавіка м-цаў 1929 г.; па ЦРК і гарспаж. т-ваў (сяброў Белрабсэкцыі) з 15-га сьнежня 28 г. па 15-га лютага 1929 г.

2. Перавыбарчая кампанія павінна ахапіць усю сыстэму рабочагарадзкой і сельскай сеткі.

3. Лічыць неабходным разьмеркаваньне прыбыткаў на кооперараваньне беднаты, асьветныя мерапрыёмства, запасны капітал і фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня зрабіць унезалежнасьці ад устанаўленых тэрмінаў справаздачна-перавыбарчай кампаніі, а зараз-жа па сканчэньні складаньня гадавых справаздач.

4. Прапанаваць праўленьню Белкоопсаюзу распрацаваць грунтоўныя мерапрыёмствы па правядзеньні перавыбарчай кампаніі і не пазьней 25-га лістападу г. г. разаслаць арганізацыям.

# ДЫРЭКТЫВЫ БЕЛКООПСАЮЗУ

## Аб сьвяткаваньні XI-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі

*Усім арганізацыям спажывецкай коопэрацыі Беларусі*

7-га лістападу працоўныя масы, аб'яднаныя ў коопэрацыі, сумесна са ўсімі працоўнымі СССР будуць сьвяткаваць 11-ю гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Увесь падрыхтоўчы пэрыяд да сьвяткаваньня, а таксама і сьвята 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ЦРК і спажыўсаюзы павінны скарыстаць для папулярызацыі сярод шырокіх мас пайшчыкаў і ўсяго працоўнага насельніцтва дасягненьняў і задач нашага социялістычнага будаўніцтва, ленінскіх ідэй будаўніцтва коопэрацыі ў нашай краіне і бягучых задач коопэрацыйнай працы.

Сьвята Вялікага Кастрычніка ў гэтым годзе мы праводзім пад наступнымі лёзунгамі: а) узмацненьне індустрыялізацыі і абараназдольнасьці краіны; б) узмацненьне калектывізацыі, падняцьце ўраджайнасьці і тэхнікі сельскай гаспадаркі; в) пагалоўнае коопэраваньне беднаты і батрацтва; г) шырокае разьвіцьцё самакрытыкі недахопаў працы коопэрацыі; д) узмацненьне коопэрацыйнай асьветы і культпрацы коопэрацыі; е) палепшаньне якасьці абслугоўваньня пайшчыкаў.

1. Уся праца па падрыхтоўцы і правядзеньню сьвята праводзіцца сумеснымі сіламі і сродкамі партыйных, прафэсыянальных, савецкіх і коопэрацыйных устаноў.

Дзеля ўвязкі працы паміж коопэрацыяй і астатнімі ўстановамі кожны ЦРК і спаж. тавар. павінны вылучыць аднаго прадстаўніка ў камісію па правядзеньні сьвята.

2. У пэрыяд падрыхтоўкі да сьвята трэба ўзмацніць працу па коопэраваньні і зборы паёў; асаблівую ўвагу зьвярнуць на коопэраваньне работніц, сялянак, бядьячак, серадьячак і моладзі. Праверыць коопэраваньне беднаты, батракоў і рабочых савгасаў.

Разьвіць працу па прыцягненьні ўкладаў ад сяброў коопэрацыі.

3. У клюбах, чырвоных кутках, хатах-чытальнях, коопэрацыйных чайных праводзіць гутаркі з растлумачэньнем ролі і задач коопэрацыі ў будаўніцтве сацыялізму і ў справе ўзмацненьня пралетарскай дыктатуры, увязваючы гэтыя пытаньні з практычнай працай коопэратыву.

4. Шырока правесьці працу па растлумачэньні нашых дасягненьняў і шляху далейшага ўзмацненьня коопэрацыйнай гаспадаркі, а таксама ролі саміх мас у далейшым паляпшэньні працы коопэратыву. Дзеля гэтага трэба скарыстаць насьценныя газэты, дыяграмы, наладжваньне вечароў пытаньняў і адказаў. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на асьвятленьне працы ў друку.

У тых ЦРК (на рабочых прадпрыемствах) і спаж. таварыствах, дзе магчыма, прыстасаваць да сьвята выпуск спэцыяльных коопэрацыйных насьценгазэт.



5. Пры правядзеньні усёй масавай працы (гутаркі, даклады, у насьценгазэтах і г. д.) трэба асабліва падкрэсьліваць працу спажывецкага таварыства ў хлебазагатоўках і ўдзел ва ўзмацненьні гэтай працы коопэрацыйнага актыву.

6. Праверыць працу коопэрацыйных куткоў і кніжных коопэрацыйных паліц у клюбах, чырвоных кутках, хатах-чытальнях, нардамох.

Прыняць меры да ажыцьцяўленьня працы ў кутках і папаўненьня новай коопэрацыйнай літаратурай бібліятэк.

7. Прыстасаваць да гэтага дню адчыненьне новых крам і магазынаў.

8. Арганізаваць у дні сьвяткаваньня сумесна з мясцовымі камсамольскімі арганізацыямі кнiганошаства па дварох, прыцягваючы ў якасьці кнiганошаў камсамольцаў і коопактыў.

9. Прыстасаваць у вёсцы адчыненьне паліц, а ў гарадох магазынаў «Маці і Дзіця». А там, дзе паліцы «Маці і Дзіця» існуюць, праверыць іх працу.

10. Прыстасаваць адчыненьне ў гарадох коопэрацыйных дзіцячых установ (садоў, ачагоў, ясьляў).

11. У дзень сьвята ўсе прадпрыёмствы, магазыны павінны быць прыбраны лёзунгамі, плякатамі і дыяграмамі, характарызуючымі працу коопэратыву.

12. Прыняць меры да таго, каб у арганізуемай дэманстрацыі коопэраваныя масы прынялі актыўны ўдзел.

**Член праўленьня БКС ФЛЕЕР.**
**Інструктар-асьветнік БАГАРАД.**

№ 11592, 25-X—28 г.

---

# Аб распаўсюджваньні літаратуры на мовах нацменшасьцяў

*Усім арганізацыям спажыўкоопэрацыі Беларусі*

Згодна пастановы Нацкамісіі пры ЦВК БССР у сувязі з пераходам усяго кнігагандлю на вёсцы да спажывецкае коопэрацыі, на апошнюю ўскладаецца адказнасьць за забесьпячэньне насельніцтва літаратурай на мовах нацменшасьцяў: яўрэйскай, польскай, латыскай, літоўскай і інш.

Для выкананьня гэтага і наступовага пашырэньня гэтае працы з боку коопэрацыі ўсім арганізацыям спажыўкоопэрацыі належыць правесьці наступныя мерапрыёмствы:

1. Ва ўсіх кнігагандлёвых пунктах належыць мець спэцыяльныя аддзелы з нацменлітаратуры, усклаўшы на працоўніка-кніжніка пэрсанальную адказнасьць за своечасовае забясьпечаньне гэтых аддзелаў дастатковым асартымэнтам літаратуры.

2. У базарныя дні арганізоўваць спэцыяльныя палаткі з кнігамі, у асартымэнт якіх павінна быць уключана нацменлітаратура і календары на нацменмовах.

3. Дагаварыцца з мясцовымі партыйнымі і камсамольскімі, прафэсыйнымі і інш. культасьветнымі арганізацыямі аб папулярызацыі нацменлітаратуры сярод насельніцтва і ўкамплектаваньні апошняй партыйных, камсамольскіх, прафэсыянальных бібліятэк і хат-чытален.

4. Для папулярызацыі і прасоўваньня нацменлітаратуры належыць зьвязацца з мясцовым настаўніцтвам, скарыстоўваючы розныя сходы і канфэрэнцыі настаўнікаў, каб апошнія ў сваёй штодзённай рабоце рэкамандавалі падбор кніг.

5. Арганізаваць пры ўсіх клюбах, хатах-чытальнях, бібліятэках сталыя выстаўкі кніг, пэрыядычна асьвяжаючы іх новай літаратурай

**Адказны сэкратар Нацкамісіі пры ЦВК БССР БУЧУКАС.**

**Старшыня праўленьня БКС Наўлянскі.**

№ 11429, 22-X—28 г.

---

# Аб арганізацыі будачнага кнігагандлю спажыўкоопэрацыі

*Усім арганізацыям спажывецкай коопэрацыі*

Праца па распаўсюджваньні кнігі ў масы, асабліва на вёсцы, патрабуе прыбліжэньня яе да спажыўца. Значны эфэкт дае распаўсюджваньне кніг на базарах у базарныя дні з будак. Вопыт гэтай працы паказаў, што яна цалкам сябе апраўдвае. Таму ўсім спажыўтаварыствам належыць правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Будка будуецца на рынках, пажадана ў цэнтры, з такім разьлікам, каб кнігі і плякаты можна было выставіць для агляду насельніцтва.

2. Асартымэнт літаратуры гэтых будак складаецца з масавай сялянскай, навукова-папулярнай, сельска-гаспадарчай, бэлетрыстыкі, песяньнікаў і інш., акрамя падручнікаў.

3. Асабліва важна, каб у асартымэнце будкі было дастаткова літаратуры на мовах нацменшасьцяў.

4. Аплата працаўніка праводзіцца адлічэньнем 15 проц. з сумы праданых кніг.

5. Гандаль у гэтай будцы праводзіцца толькі ў базарныя дні.

6. Кнігі ў будку адпушчаюцца з кніжнай крамы, або аддзелу пад справаздачу і па сканчэньні гандлёвага дню, астача прымаецца ў зварот, а за прададзеныя кнігі робіцца разьлік.

7. Вельмі мэтазгодна, каб мейсца на рынку стала замацаваць для будкі, шляхам пабудовы будкі з дошчак.

8. Для працы ў палатцы належыць падабраць працаўніка добра знаёмага з мясцовасьцю, зацікаўленага грамадзкай працай.

**Нам. старшыні праўленьня ХАСКІН.**

**Кансультант АХРЫМЧЫК.**

№ 11316, 18-X—28 г.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Палажэньне пра фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня коопэрацыі

*(Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР)*

1. Для задаволеньня патрэб коопэрацыі ў доўгатэрміновым крэдыце, пры Беларускім Аддзяленьні Ўсерасейскага Коопэрацыйнага Банку ўтвараюцца фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня коопэрацыі.

З гэтых фондаў выдаюцца доўгатэрміновыя пазычкі коопэрацыйным арганізацыям на капітальныя затраты, на павялічэньне зваротных сродкаў і на ўтварэньне альбо павялічэньне асноўных і спэцыяльных капіталаў.

2. Гэтыя фонды падзяляюцца на: «агульны», з сродкаў якога выдаюцца пазычкі ўсім сыстэмам коопэрацыі, і «спэцыяльныя»—для выдачы пазычак коопэрацыйным арганізацыям данай сыстэмы коопэрацыі.

3. Агульны фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня складаецца з наступных сродкаў:

а) з зваротных асыгнаваньняў, што прадугледжваюцца ў дзяржаўным бюджэце БССР у разьдзеле фінансаваньня коопэрацыі, пачынаючы з 1927—28 б. г.;

б) з сум задоўжанасьці коопэрацыі скарбу па зваротных асыгнаваньнях па разьдзелу фінансаваньня коопэрацыі за папярэднія гады;

в) з плацяжоў, што паступілі ў Беларускае Аддзяленьне Ўсекобанку і іншыя банкі з 1-га кастрычніка 1926 г. па пазычках, выданых на фінансаваньне коопэрацыі за папярэднія гады (п. «б»);

г) з штогадовых працантаў, якія належаць скарбу ад Аддзяленьня Ўсекобанку за карыстаньне бюджэтнымі сродкамі агульнага фонду (п. п. «а», «б» і «в»), а таксама працантаў за карыстаньне сродкамі, што паступаюць у гэты фонд на падставе гэтага пункту.

**Увага 1.** Усе памянёныя ў арт. 3 сумы залічваюцца Беларускім Аддзяленьнем Усекобанку, як задоўжанасьць скарбу.

Калі фінансаваньне коопэрацыі рабілася часткова праз іншыя банкі, то апошнія павінны перадаць нескарыстаныя коопэрацыйныя сумы і абавязанасьці пазычальнікаў Беларускаму Аддзяленьню Ўсекобанку.

**Увага 2.** Сумы, памянёныя ў п. „г“ арт. 3, штогод праводзяцца па даходнай і расходнай частках дзяржаўнага бюджэту, прычым гэтыя сродкі не забіраюцца з фонду да часу звароту скарбу адпаведных перададзеных у фонд бюджэтных сродкаў (арт. 5).

4. Разьмер працантаў, што бяруцца за пазычкі з агульнага фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня, устанаўляецца—4 проц. гадовых, з якіх: за гарантаваныя банкам пазычкі—2 проц. і за негарантаваныя—½ проц. ідуць на карысьць банку, а рэшта залічваецца ў фонд (п. «г», арт. 3).

За пазычкі, выдапыя ў папярэднія гады, процанты, якія павінны паступіць да 1-га красавіка 1928 г., налічваюцца ў разьмеры, прадугледжаным генэральным дагаворам НКФ з Беларускім Аддзяленьнем Ўсекобанку за 25 мая 1927 г.; а за тыя пазычкі, процанты ад якіх павінны паступаць пасьля 1-га красавіка 1928 г., паводле новага разрахунку ўстаноўленага гэтым артыкулам.

Увага. За карыстаньне банкам сродкамі агульнага фонду да моманту выдачы іх кооперацыйным арганізацыям ці да звароту скарбу банк уносіць у фонд процанты ў разьмеры 6 проц. гадовых.

5. Дзяржаўныя сродкі, прадугледжаныя арт. 3, астаюцца ў фондзе паводле дагавору НКФ з Банкам на працягу 15 гадоў з тым, што пазычкі з яго выдаюцца кооперацыйным арганізацыям, у залежнасьці ад мэты прызначэньня пазычкі і фінансава-эканамічнага становішча гэтых арганізацый, на тэрмін—у зваротныя сродкі—ад 2 да 5-ці гадоў; а на капітальнае будаўніцтва—да 8-мі гадоў.

Пасьля выходу тэрміну, на які бюджэтныя сродкі былі пакінуты ў фондзе, Эканамічная Нарада пры СНК БССР вырашае пытаньне аб магчымасьці звароту памянёных сродкаў скарбу і, у адпаведнасьці з гэтым, устанаўляе парадак і тэрміны гэтага звароту на аснове паступовай выплаты задоўжанасьці банку па фонду. Сумы, якія паступяць у скарб з фонду па выплаце задоўжанасьці банку, праводзяцца па прыходнай частцы дзяржаўнага бюджэту БССР.

6. Падрабязныя ўмовы, тэрміны перадачы і парадак скарыстаньня дзяржаўных сродкаў, прадугледжаных арт. 3, вызначаюцца асобным дагаворам НКФ з Беларускім Аддзяленьнем Усекобанку на падставе гэтага палажэньня.

7. Усекобанк нясе перад НКФ БССР матар'яльную адказнасьць за сваячасны зварот у скарб сродкаў агульнага фонду ва ўстаноўленыя для гэтага тэрміны, незалежна ад фактычных разрахункаў банку з паасобнымі пазычальнікамі.

Паказаная адказнасьць можа зьнімацца з банку толькі ў дачыненьні да негарантаваных банкам пазычак.

8. Грунтуючыся на разьмерах агульнага фонду крэдытаваньня, Эканамічная Нарада пры СНК БССР штогод вызначае разьмеры крэдытаваньня кожнай кооперацыйнай сыстэмы па чарговы бюджэтны год і дае агульныя дырэктывы аб скарыстаньні гэтых сродкаў.

9. Спэцыяльныя фонды складаюцца з сродкаў самой кооперацыі, праз залічэньне ў гэтыя фонды:

а) абавязковых штогадовых адлічэньняў у разьмеры дзесяці (10 проц.) процантаў ад чыстага прыбытку кооперацыйных цэнтраў, саюзаў, цэнтральных рабочых кооператываў, гарадзкіх і транспартных спажывецкіх таварыстваў;

б) адлічэньняў ад чыстых прыбыткаў тых нізавых кооператываў, на якія такія абавязкі будуць ускладзены пастановамі іх кооперацыйных цэнтраў;

в) капіталаў, якія перадаюцца кооперацыйнымі арганізацыямі Беларускаму Аддзяленьню Усекобанку з мэтавым прызначэньнем на доўгатэрміновае крэдытаваньне;

г) адлічэньняў ад чыстага прыбытку Ўсекобанку ў разьмеры, які ўстанаўляецца пастановамі агульных сходаў пайшчыкаў;

д) іншых паступленьняў;

е) штогадовых процантаў, якія належаць ад Беларускага Аддзяленьня Ўсекобанку за карыстаньне сродкамі спэцыяльных фондаў (п. п. «а», «б», «в», «г» і «д»), а таксама процантаў за карыстаньне сродкамі, якія паступаюць у гэты фонд на падставе гэтага пункту.

Разьмер процантаў устанаўляецца дагаворамі коопэрацыйных цэнтраў з Беларускім Аддзяленьнем Ўсекобанку.

Увага. Адлічэньні, прадугледжаныя п. «а», гэтага артыкулу, робяцца з чыстага прыбытку па балянсах коопэрацыйных арганізацый, пачынаючы з балянсу на 1-е кастрычніка 1927 г.

Калі разьмеркаваньне прыбыткаў за 1926—27 апэрацыйны год ужо зроблена, але ня зроблены адлічэньні паводле гэтай пастановы ў спэцыяльныя фонды, то адлічэньні павінны быць зроблены з сум, пералічаных у асноўныя ці зваротныя капіталы арганізацыі.

10. Памянёныя ў п. п. «а» і «б» арт. 9 адлічэньні і проценты за іх (п. «е») астаюцца ў адпаведных фондах на ўвесь час іх існаваньня і павінны зварочвацца толькі калі ліквідуецца даны фонд.

Падрабязныя ўмовы і тэрміны ўнясеньня ў фонды сродкаў, прадугледжаных арт. 9, а таксама ўмовы скарыстаньня і звароту іх вызначаюцца асобнымі дагаворамі паміж банкам і коопэрацыйнымі цэнтрамі, у адпаведнасьці з гэтым палажэньнем.

11. Беларускае Аддзяленьне Ўсекобанку нясе перад адпаведнымі коопэрацыйнымі сыстэмамі матар'яльную адказнасьць за цэльнасьць унесеных імі сродкаў ў спэцыяльныя фонды, незалежна ад фактычных разрахункаў банку з паасобнымі пазычальнікамі.

Паказаная адказнасьць можа зьнімацца з Банку толькі ў дачыненьні да тых пазычак з спэцыяльных фондаў, выдача якіх, ня гледзячы на адмаўленьне банку, была зроблена пастановаю кіраўніцтва адпаведнага коопэрацыйнага цэнтру.

12. Магчымыя страты Беларускага Аддзяленьня Ўсекобанку па апэрацыях са сродкамі агульнага і спэцыяльных фондаў, апроч страт па пазычках, выданых з гэтых фондаў без адказнасьці банку (арт. арт. 7 і 11), папаўняюцца з асобнага гарантыйнага фонду, а калі яго не хапае, з запаснага капіталу Ўсекобанку; па пазычках, выданых без адказнасьці банку, страты папаўняюцца выключна з сродкаў таго фонду, з якога пазычка выдана.

Гарантыйны фонд утвараецца з штогадовых уносаў у яго часткі тых процантаў, якія належаць банку з агульнай сумы процантаў за гарантаваныя пазычкі з сродкаў агульнага і спэцыяльных фондаў, апроч процантаў, што ідуць на папаўненьне арганізацыйных выдаткаў банку па апэрацыях гэтых фондаў.

13. Доўгатэрміновае крэдытаваньне коопэрацыйных арганізацый з сродкаў агульнага і спэцыяльных фондаў ажыцьцяўляецца аддзелам доўгатэрміновага крэдыту (АДК), які арганізуецца пры Беларускім Аддзяленьні Ўсекобанку.

